# „МАЛАНКА“

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ.

# 1928.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 2.

Друк. Крайнэс і Каваўскі Вільня, Вялікая 39.

22. X. 1928 г. Цана 30 гр.

# Пякучая Маланка

Аднаднёўка гумару, жартаў і сатыры.

## Зьмянілі быка на індыка.

*(Белαруская пагаворка).*

... Па загаду Маладэчанскага Старосты зачынена Радашкаўская Беларуская Гімназія. Заместа Гімназіі ўлады дазволілі адчыніць народную „паўшэхную“ школу..

*(З „Рэха Працы“ № 9)*




**Першы пан:** І нашто дзеці цёмны беларускіх мужыкоў будуць забіваць сабе галовы ў нейкай там гімназіі!? — Вось школа „powszechna“ для іх самы раз!

**Другі пан:** Рацыя, пане, рацыя! Ад тых гімназіяў у беларускіх дзяцей толькі нейкія *шкадлівыя* ідэі родзяцца..



## Царкоўная расколіна.

Паміж праваслаўным духавенствам ідуць заўзятыя спрэчкі на грунце беларусізацыі царквы.

*(З польскіх газэт).*

Што за спрэчка там ідзе.
Што за крыкі ў грамадзе
Службу кожную,

А часамі там чуваць
На падмогу завуць „маць“
Ды ня Божую.

„Діонісія сыны“,
Барукаюцца яны
З „абнаўленцамі“.

Ужо вось каторы год
Пацяшаюць так народ
Тут „каленцамі“.

Завялі фармальны бой
„Словесамі“ між сабой —
„Падвізаюцца“.

А за імі цэлы клір —
Гаў-гаў-гаў! ды гыр-гыр-гыр! —
Загрызаюцца . . .

Але к чорту „словеса“ —
У бой штурхнула „телеса“
Злосьць кіпучая.

Ох, духоўныя айцы
Ці ня чуеце канцы
Нямінучыя?!

Хоць мо' гэтым надта вы,
Слугі верныя царквы,
Не здаволены,

Але хай злосьць закіпіць,
А ў царкве не заляпіць,
Вам расколіны.

**Крапіва.**

## Захацеў я ажаніцца.

Захацеў я ажаніцца.
„Годзе марнець, валачыцца.
Жонку, знача, стаў шукаць
І на дзевак паглядаць.

Цісну ў вёску...
Дзеўка гладка,

Ну, як грэцкая аладка,
І прыгожая на твар,
Бы у краме той тавар.
Станам гібка, ростам складна.
Ой-жа, любка, ой, прынадна!
А здароўем ад яе
Так і грэе, так і б'е.
Бы работа, ў вагонь прэцца,
Усё ў руках гарыць, здаецца,
Аб жаночай што казаць—
Ёй ня штука бо й гараць.
А брахаць... Ну, што сабакі,
Дасца кожнаму у знакі.
У скокі пойдзе—матылёк,
А гарэлкі—ні ў зубок.
Ой-жа, дзеўка. Я жаніўся-б,
Жонку меў-бы, ну й разжыўся-б!

Але... брыдка!
Што сказаць...

Вось... ня ўмее, бач чытаць,
Абыходзіцца з гасьцямі
Ці з панамі, як, ня знае,
І падумаў я ў духу:
„Жонкі з вёскі не вазьму“.

---

„Вось у месьце, дык бяз мукі
Жонку знайдзеш на ўсе штукі,“
Ад людзей я гэтак чуў—
Ну, і ў Вільню лупануў.
У Вільні дзеўка, ой—малюнак,
Усё над першы ў ёй гатунак:
Вусны, вочы, лоб і нос
І завіткі тых валос.
Ой, дзяўчына, ой, кахана!
Як анёлачак, прыбрана,
Строі тыя зіхацяць
Палыскуюць і шумяць.
Стан і склад—ну, любавацца
Так і хочацца кахацца.
А паходка—слоў няма,
Матылёчак бы, яна.
Хвацка піша і чытае,
Усё ведае і знае,
Як і што каму сказаць,
Дзе й калі „налева“ ўзяць.
Скокі дзе—усюды лазіць,
А ўжо з кінаў—ня вылазіць,
І бяз сораму ў кафэ
Хоць а поўначы папрэ.
Языком ну ўжо ляпеча,
Як баран хвастом трапеча,
Як ваду, гарэлку п'е
На'т яе не страхане.
Кожны дзень адна забота:
Спаць і есьці—вось работа,
Вечар прыйдзе—з дому проч
І няма яе ўсю ноч.
Калі ў рукі ёй хлапчына
Пападзецца, ды з грашыма,
Ну, што ліпку, абярэ
І да „мацеры“ пашле.
Дзеўка ў Вільні вось такая
Пыл жаніцьства ўвесь спыняе,
Да каханьня ўвесь той яр
Згладзіць, счысьціць, як пажар.

---

Але йзноў як закарціцца
І трэ' будзе ажаніцца —
Ужо ня стану разглядаць
І тых дзевак тасаваць.
Не на цацку, чуем, нейку
Бяруць жонку у сямейку,
Ня для забаўкі пустой
І паказу жонкі той.
У жонцы друга ўсе шукаюць
І работніцы чакаюць, —
Шчасьце, радасьць каб дала,
Жыць у горы памагла.
А такую знайдзем братка,
Знайдзем жонку, як-бы матку —
Толькі трэба з вёскі браць,
Хоць ня будзе ўмець чытаць.

*Улад—Ініцкі.*

### З ГУТАРАК У ГМІНЕ.

Пісар „расьпякае“ свайго памоцніка.

— Як табе ня стыдна, ты ізноў п'яны прышоў да працы.

— Чаму ізноў? Я ніколі п'яны ня прыходзіў.

— Учора?

— Няпраўда! Я ўчора быў цьвярозы.

— Але-ж ты ўчора сам аб гэтым прызнаўся?

— Ну, глупства, ці мала што скажаш у п'яным стане.

*Я. М.*

# Спадарова лекцыя.

«Спадар» Янка Станкевіч назначаны прафэсарам беларусазнаўства ў Варшаўскім Унівэрсытэце.

*З газэт.*

Прачытаў я гэтую вестку, зьдзівіўся не на жарт, яшчэ раз прачытаў, вачом сваім ня верачы, дый хутка задрамаў, бо час быў даволі позны.

Засыпаю і раптам бачу самога Янку Спадара на... катэдры.

Жартачкі, куды залез!

Але-ж, ведама, як у Сойме цяперашнім, што для адных мусі доўгіх вакацыяў зьбіраны быў, няма чаго рабіць нашаму Спадару, дык мусіў ён сабе пашукаць дзе-нібудзь у іншым месцы трыбуны.

Як жывога Спадара бачу. Багасловам лекцыі чытаць пачынае.

Патаптаўся на месцы, у адзін кішэнь руку засунуў, пасьля другую ў другі папрабаваў, пажаваў-пажаваў сабе нешта ў парожнім роце, набраў у грудзі паветра дый гукнуў:

— Спадары, багасловы! У недалёкай будучыні вам прыдзецца папамі (выбачайце, духоўнікамі) быць паміж беларускім народам. А вы добра й ня ведаеце ніякае *беларусаведы*. Ня ведаеце, што беларуская мова на сьвеце ё... Вось я і назначаны да вас за прафэсара. З чаго-ж мы пачнем? А ведама, пачнем з таго, з чаго й я ўсю сваю *беларусаведу* пачынаў, Як усе хіба ведаеце, была нядаўна вялікая вайна—*разбойства*, значыцца, пабеларуску. Вільню немцы забралі ад маскалёў. Вось я тады і выдумаў *онтыкву*. Во яна ў гэтай кніжачцы ё...

І пры гэтым Спадар падняў праваю рукою ўгару тоненькую, худзенькую, як сама доля беларуская на Захадзе, брашурку ў нейкай выцьвіўшай зусім ня то жоўтай, ня то зялёнай вокладцы.

— Брашура гэтая мае назоў: „Кароткі спосаб ніколі ня стацца граматным“.

Гэтак вёў сваю першую лекцыю Спадар.

Слухачы заварушыліся.

— Пасьля,—цягне далей Спадар,—Тарашкевічаву граматыку *траха* я пашліфаваў, падліў туды, значыцца, свае веды, хаця, калі прызнацца, тады я яшчэ за граніцу па веду ня езьдзіў і *наўчоным* ня быў. Але і гэта яшчэ справа невялікая. Калі хочаце адразу ўсяе беларусаведы навучыцца, дык чытайце, *выпісуйце* сялянска-*спадарскую* газэту з Вільні „Народ“. Там вы ўсе ўдасканаленьні мовы роднае ўбачыце і адразу ўцяміце, што лацінскі ёт у нашай *абэцэдзе* неабходны пад Польшчаю... Яго можна стаўляць, *дзе хаця*, ані ня шкодзячы *прыгоству* нашае мовы. Наадварот, гэта будзе сьведчыць, што і мы не азіяты там нейкія, а здольныя зусім да заходняе вышэйшае культуры. Трэба толькі ўсе гэтыя *коўствы* ў мове шанаваць, спагадаючы іх вечнаму няўпыннаму поступу. А калі чага, барані Божа, не *зацеміце* добра, дык я-ж гатоў, як-га, вам памагчы і вясьці вас адважна да яшчэ нявыкрытых *моўных* фактаў.

Бо што такое ё мова?

Чым яна будзе для вас, як духоўнікаў!

Мова—ё для вас спосаб спрытна падыйсьці да цёмнага беларускага народу, каб ягонае падтрыманьне, дзе трэ'будзе, дастаць і да людзкага хлеба дайсьці.

А для вас, пры цяперашнім заняпадзе праваслаўя, мова нашая, простая, народная будзе тым прыладзьдзем, без якога ніколі ня ўдасца даказаць цёмным мужыком вашага апостальскага назначэньня.

Без беларусаведы цяжка папом быць. Гэта ўжо спрытнейшыя з бацюшкаў зразумелі і „Беларускую Зарніцу“ ў Вільні пачалі выдаваць...

Я прачхнуўся ад нейкага шуму ў вушох. А ў вачох усё яшчэ стаяў Спадар, разгарачаны, як у лазьні...

І я рашыў, што газэты проста засмалілі гэтым разам звычайную качку.

Аж дасюль неяк ня верыцца, каб Спадар быў прафэсарам сталічнага унівэрсытэту.

Галюцынацыя дый годзі...

**Picolo.**

# Востры язык.

Кончылася выстаўка ў Вільні. Паны вывозяць свае экспонаты дамоў. На аднэй вузкай вуліцы Вільні сяляне-парабкі вязуць на вазох панскія сьвіньні. А паны на добрых брычках вязуць сабак.

Разьмінаюцца. Цесна. Пан ня вытрываў і сказаў:

— *Цо хлоп, то і—сьвіня!*

А селянін, ня доўга думаўшы, паказаў рукой на паноў дый кажа:

— А што пан, то і—сабака!..

*М. Ш.*

# Пасьля шлюбу.

Шлюб узяўшы, сваёй жонцы
Ціт маёмасьць паказаў:
— Вось і стойліца кароўцы,
А кароўку Бог прыбраў...

Ёсьць і варыва ў гародзе,—
Хрэн з цыбуляю,
Будзе й мёд, як пчол дабудзем,—
Ёсьць і вулей вун.

— Ня тужы, мая Прузынка,—
Цешыць жонку Ціт,—
Бач, жыцьцё, то не разынка,
Трэба ведаці.

Бог дасьць дзетак нам пар зо тры;
Усьмяхнулася:
— Ах ты гіцаль, ах, ты лотра,
Каб-жа ж гэта ўсё!..

**М. Васілёк.**

### НАЙШЛА КАСА НА КАМЕНЬ.

— На станцыі Стоўпцы ў буфэце сядзіць селянін і п'ець гарбату. Каля яго стаіць пан і есьць курчо. Паглядзеў пан на селяніна дый голасна кажа:

— Эх, і стаў-жа цяпер народ!—што мужык, то і сьвіньня.

— Няпраўда, адказвае селянін, — сьвіньня заўсёды есьць стоячы, а мужык заўсёды седзячы.

*В. Шаг.*

### ВЯСКОВЫ ЦАР.

— Ведаеш, павятовы староста у нашую вёску цара назначыў.

— Што ты кажаш?

— Але праўда. Хоць на яго мідалі ўсяго толькі „солтыс“ напісана, але паступае ён, як цар, навет свае маніфэсты выдае, не дарма ў паліцыі служыў,—навучыўся.

— Цікава?...

— Было гэта так: Іду я каля вёскі Лявонавічы і бачу, пасуць пастухі быдла каля жыта. Пытаюся, хто вам пазволіў?

— Як хто? — солтыс!

— А якое ён меў права?

— Эгэ, брат, ня ведаеш! — сёньня ў жонкі солтыса радзіны, дык ён такі маніфэст выдаў.

*Пастух.*

### МАЛОЕ НЕПАРАЗУМЕНЬНЕ.

— За што твой Ігнат арыштованы?

— Эт, плёвая справа: у морду аднаму сэквэстратару плюнуў.

# А я за сябе пасяджу!



**Рэфэрэнт прасовы**: — Вы. рэдактар, пасьмелі крытыкаваць тое, чаго я вам ніколі не дазвалю Ого, я за гонар гэтага *пастаю*!!.



**Рэдактар**: Калі так, дык нічога ня зробіш: я за сябе *пасаджу*. — Мне гэта не першыня..

## НА СУДЗЕ.

*Судзьдзя*: — Абвінавачаны, вам даецца права сказаць апошняе слова.

*Абвінавач.*: — Я ня буду нічога казаць...

*Судзьдзя*: — Чаму?

*Абвінавач.*: — Я з жыцьцёвай практыкі ведаю. У мінулым годзе я быў аштрафаваны за тое, што на судзе казаў апошнімі словамі.

*Р. Г.*

## У СУДЗЕ.

— Вы скардзіцеся на свайго сына, што ён падняў на вас руку?

— Не, не за тое, што падняў, а за тое, што ўдарыў.

●●

# ДЗЕЯЧЫ.

Гэтак званыя «беларускія полёнофілі» ў месцах публічных і ў сябе дома карыстаюцца моваю расейскаю або польскаю, толькі «ўрадуюць» пабеларуску.

*З газэт.*

Селянін Бутрым прыехаў з вёскі ў Вільню, меў тут сякія-такія справы, думаў нават на выстаўку зайсьці, але ад параднага ўваходу павярнуў назад, пабачыўшы, што на выстаўку гэту пруць усё паны, дый залатоўкі за ўваход Бутрыму плаціць не хацелася.

Пайшоў сабе аглядаць гарадзкія вуліцы.

На Сьвятаянскай напоўз на шыльд:

„БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ".

Што, думае сабе, гэткае?.. Няўжо наш дзень інакшы нейкі, як у людзей?..

Патупаў каля брамы і пастанавіў даведацца, ці ня гандаль які тут? Можа касу новую ці серп танна купіць можна?

Ідзе па сходах, бачыць і на дзьвярох той самы шыльд. Звоніць і пытаецца ў прачыніўшага дзьверы чалавека:

— Што гэта тут такое?

— Сюды, сюды, калі ласка,— запрашае яго ўсьцешаны студэнт (бо гэта быў першы выпадак, што сюды наведаўся запраўдны селянін у сьвітцы і нават у лазовіках).

— Тут рэдакцыя, вось мaеце газэту,—тлумачыў студэнт Бутрыму далей. Сядайце. Зараз мусі рэдактар прыдзе.

Бутрым нацягаўся па месьце, і яму ня шкодзіла крыху адпачыць на панскім крэсьле.

Праз мінут дваццаць убягае рэдактар. Як усьцешыцца ён, што запраўдны селянін, мужык у сьвітцы і лазовіках, ды сядзіць вось тут у яго, куды жывая душа не заглядвала за паўтара года ўсяго ягонага „ўрадаваньня".

— Вы, пане-пане, да мяне? — спытаўся ў Бутрыма рэдактар пабеларуску.

— Я не... я ня пан, як бачыце... Я так сабе... зайшоў, думаў можа тут гандаль які, аж тут вось гэты панічок, (паказаў Бутрым на студэнта) дарма нават газэтку мне даў і адпачыць папрасіў... Дзякую, панок, бо-ж праўда, у месьце гэтак горача.

— Хадзеце сюды, пагутарым, што ў вас чуваць?.

І рэдактар павёў астаўпелага Бутрыма ў свой кабінэт, дурыўдурыў галаву і нават прасіў, калі што якое, справы якія да „ужэндаў" будзе мець, дык каб проста сюды валіў, а калі яго тут не знайдзе, дык на кватэру проста. І тут, шчасьлівы з мужыцкага візыту рэдактар даў Бутрыму сваю візытную картку, напісаўшы на ёй свой адрэс.

. . . . . . . . . . . . . . .

Праз тыдняў пару якіх трэба было такі Бутрыму да „ужэнду скарбовэго". У гародчыку ў яго табака - самасейка нейкая дзікая гадоў пару назад вырасла... Акцызны пратакол, штраф і вось цяпер плаці яго, кажуць.

Бутрым прыехаў да Вільні, раненька, памужыцку, думаў справіцца, пазваніў у рэдакцыю, дзе яго нядаўна яшчэ гэтак лісьліва прымалі, але там нейкая пані сказала, што пан рэдактар цяпер на дачы, ці што, бо не „ужэндуе".

— Каб яго гаручка, — падумаў сабе Бутрым, але рашыў такі наведацца да рэдактара проста на яго кватэры, як той некалі прасіў яго.

На аднэй доўгай замястовай вуліцы дабрыў такі, нарэшце, да мэты наш Бутрым.

Нумар дому той самы, але як тут зайсьці?

Зірк, аж на дзьвярох гэткая самая картка візытная, якраз гэткая, як тая, што яму калісь пан рэдактар падарыў.

Чытаць сяк-так Бутрым навучыўся папольску яшчэ малым з кантычкі. Разглядае.

На картцы польскімі літарамі надрукована:

Franciszek Umiastowski
Zastępca Naczelnika Urzędu
Skarbowego.

# Шчасьце на „Крэсы“ плывець з усіх бакоў.

Пазнанскія рэстараншчыкі падалі Міністру Скарбу мэморыял, у якім пішуць, што польскія рэстараны і шынкі на „Крэсах Усходніх“ зьяўляюцца ... „rozsadnikami patryotyzmu, wypierają powoli, ale stale wszelkie zakusy wywrotowców... Są to zatem posterunki utrwalające podwaliny polskości“...

*Часоп. „Dom Gościnny“ — Жнівень 1928 г.*




*Пазнанскія паны:* А вось і наглядны абразок да нашага мэморыялу.

— Вось дык шэнціць, — ўцешыўся Бутрым. Тут мусі разам і начальнік той важны, што штраф за табэку ўпірыў, жыве. Мо зараз-жа ўсё зьменіць, ці хоць скідку зробіць.

Пазваніў Бутрым. Дзьверы прачыніў хлапец, як аказалася, рэдактараў сын.

— *До кого, хлопе?* — спытаўся пэніч.

— А я да пана рэдактара, што картку вось гэтую мне ў рэдакцыі даў і зайсьці прасіў. І Бутрым выняў з кішаня картку рэдактара і быўшага важнага акцызьніка разам у аднэй асобе.

Дзьверы ізноў зачыніліся, і праз мінуты дзьве ў іх паказаўся сам рэдактар.

— *А цо, маце інтэрэс?* — спытаўся ён у Бутрыма.

— Так, паночку, штраф вось на мяне за табаку-самасейку.

— *Тшэба плаціць, тшэба плаціць... Ніц не можна зробіць. Поцоэж сялэсь ё. Не вольно сяць. Я пшэцеж пісалэм не раз в газэце о тэм...*

— Ды дзе там сеяць, паночку, сама, самасейкаю вырасла.

І праз цэлае паўгадзіны ішла ў іх гэтак гутарка: Бутрым да рэдактара пабеларуску, а той а ні слова, як быццам яму зусім язык адняло, ні слова не сказаў пабеларуску, бо ўхаце ўяго ўжо звычай такі.

Калі бедны Бутрым апынуўся каля вялікае камяніцы аж на Завальнай вуліцы, цяжка думаючы, што цяпер будзе з яго табачным штрафам, дык заўважыў каля дзьвярэй аднаго фронтону таксама беларускі шыльдзік:

„БЕЛАРУСКІ РАДНЫ“
„ГРАМАДЗЯНІН“.

Сьвяцілі гэтыя магічныя словы ў вочы беднаму селяніну.

— Бачыш ты? Радны? — падумаў ён. Тут дык мусі нешта радзяць. І папёр наш Бутрым па сходах на самую гару, аж яму дух зусім забіла.

На апошнім паверсе на самай гары Бутрым знайшоў на дзьвярох таксама візытную картачку — утраквістычную, г. знач. на дзьвёх мовах: папольску і пабеларуску.

Пасярэдзіне карткі было надрукована:

*Тодар Вернікоўскі*

а ніжэй нейкаю дзядоўскаю рукою дапісана:

Рэдактар беларускіх газэт „Грамадзянін“ і „Беларускі Радны“.

— Вось аж дзе гэты „Радны“, — падумаў Бутрым і пакруціў у дзьвярох маленечкую лапатку ад званка.

Было яшчэ рана, каб знайсьці якога парадчыка, і возны сказаў нашаму Бутрыму, што „ўрадаваць“ пачнуць яшчэ праз гадзіны тры, а цяпер ён можа толькі *замэльдоваць* пану рэдактару, самому „дзядзьку“, дык можа той сам яго і выслухае.

Праз мінут дзесяць у пачакальню ўвайшоў высокі, трыбухаты пан у акулярах на лобе. Бутрым падумаў, што гэта ня йначай як быўшы губэрнатар які, або спраўнік, і ўстаў, пакланіўшыся пану.

— А цюцік, сабачка. *Тебе что нужно? Зачем так рано приходишь? Кто ты такой?*

Я парады шукаю... радны тут нейкі ў вас на шыльдзіку ўбачыў, дык і зайшоў. Выбачайце, паночку, калі рана.

— *Да, да. Еще рано,* — адказаў пан. — *В двенадцать часов приходи, а теперь нашего адвоката еще нет.*

Выляцеў Бутрым на вуліцу, выцер спацеўшы лоб свой і рашыў, што тут нейкае ашуканства: як быў ты сабе мужыком, так і застанешся, а паны толькі шыльды вывешваюць, нашаю моваю хочуць нас да сябе прывабіць, а паціху пэўна робяць з гэтага свой панскі інтэрас.

І, падумаўшы гэтак, пайшоў шукаць, дзе яму тут хоць слова рады людзкае пачуць.

Прыйшоў вось у „Маланку“, усё гэта расказаў, што з ім у панскіх кватэрах і рэдакцыях здарылася, а я ягоны расказ запісаў.

**Picolo.**



*А Ярэма ўсё думае і думае.*

# Аб чым думаў Ярэма.

(*Маленькі фэльетон*).

Пасол Ярэма вярнуўся з Жэнэвы. Віленскія сябры „Сялянскага Саюзу“ выйшлі яму на спатканьне. Было іх ня вельмі шмат, але колькі, добра ня ведаю, — казалі, што на пальцах аднэй рукі можна было ўсіх пералічыць.

Ярэма пачаў дзяліцца ўражаньнямі:

— Жэнэва—прыгожае места,—не дарма я туды колькі разоў ежджу. Возера таксама прыгожае, а ў ём рыбы рознай: акуні, шчупакі, плоткі, — так сама, як у нас. Толькі вось людзі дурныя, — ніводзін з іх пабеларуску ня ўмее. З кім я не загавару, дык ніводзін не пазнае, што я *пасол і лідэр „Сялянскага Саюзу“*, а ўсё гергечуць неяк ня то пацыганску, ня то пажыдоўску — нічога не разьбярэш і больш на твар, дый на бруха маё заглядаюцца...

— А як-жа Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў? Якія вынесьлі рэзалюцыі? — спытаўся нехта цікавы.

Аб гэтым я напішу падрабязны даклад у нашу газэту.

І яшчэ шмат празнага казаў Ярэма. Партыйцы яго слухалі, зявалі.

— Ну, а цяпер па чарцы! — запрапанаваў сэнатар Рабуля, — качаць нашага лідэра! Гура!!.

— Хай жыве Ярэма! — крыкнулі партыйцы. Некалькі рук пацягнулася, каб падняць Ярэму „на віват“. Пацелі, крахталі, саплі, але ўсё дарэмна: Ярэма, быццам, прыліп да падлогі.

— Эх, братцы! каб данкрат падлажыць, або дынаміту трошкі, — параіў нехта, — мо‘ тады падняць удалося-б?!

Кончыўся банкет. Расходзіліся вясёлыя, „подгуможоныя“.

---

Вечарам таго самага дня Ярэма сядзеў дома. Жонка прыставала да яго з рознымі пытаньнямі, але Ярэма сярдзіта адгрызаўся:

— Ды ня лезь мне асой у вочы! ня маю часу, — трэба думаць.

— Пасьля падумаеш, а цяцер раскажы.

— Добра табе казаць пасьля, а ў мяне думак поўная галава, — трэба ў газэту ўражаньні свае напісаць.

Сеў Ярэма за стол. Адчыніў чарніліцу, узяў пяро ў рукі і хацеў нешта пісаць. Думаў, думаў, але нічога ня думалася. Галава была цяжкая, як стопудовы камень, нешта ў ёй шумела, стукала, але нічога ня думалася.

— Ды ты, Фабусь, ідзі спаць, пасьля падумаеш.

— Ня можна пасьля, — яшчэ што забудуся.

Жонка вывела дзяцей у другі пакой і сама ціханькі выйшла на цыпках.

Ярэма пачаў зноў думаць. Думаў гадзіну, думаў дзьве, і больш, — нічога ня выходзіла. Ужо запелі раньнія пеўні, а Ярэма ўсё думаў.

— Фабусь, — адазвалася жонка, ну як, ці выдумаў?

— Дзе тут, да ліха, выдумаеш! Тут — сам мудры Салямон нічога ня выдумае. Вось б‘юся ўсю ноч, а думкі ўсё ня прыходзяць. Галава на часткі лопаецца, а карысьці ні на грош.

— А ты пабалтай мазгамі, можа яны ў цябе застаяліся? — спачувальна параіла жонка.

Ярэма пабалтаў галавой.

— Ну, што? — спыталася жонка.

— Нічога.

— Што з імі сталася? — дзівілася жонка.

— Ліха іх ведае, — вось сталі, як камень і ані руш з месца. Ніколі ня думаў, а тут думаць прышлося.

Жонка выйшла, а Ярэма ўсё думаў і думаў.

Усталі дзеці і пачалі бегаць па падлозе.

— Ціха, дзеткі, ня бегайце, не перашкаджайце бацьку думаць.

Ярэма нэрвова захадзіў па пакоі. Глянуў у вакно. На страсе суседняй хаты весела чырыкалі верабейчыкі.

— Добра вам там на страсе чырыкаць,—зазлаваўся Ярэма. Пасадзі вас вось за стол, дый прымусь вас тут думаць, — нябось, хутка замаўчалі-б!

Паглядзеў Ярэма ў люстра і аж спужаўся. Твар заплыў. Валасы паблуталіся. У вачох апатыя і санлівасьць. Стукнуў ён злосна кулаком па галаве і закрычэў:

— Ды думай-жа ты, праклятая, а то я цябе вось як!.. вось як!.. І ўдары за ўдарамі пасыпаліся на бедную Ярэмаву галаву.

— Фабусь, не нэрвуйся, супакойся, перастань, — устрымлівала яго жонка.

— Вось як!.. Вось як!.. — ня спыняўся Ярэма.—Так табе і трэба: — на пагляд галава вялікая, а як думаць, дык ня можа! Аб непатрэбных рэчах якіх, дык яна думае, а што да справы, дык яе няма.

Ярэма ізноў узяў пяро ў рукі, выцер яго аб валасы, памачыў у чарніліцу і задумаўся:

— Тэма ясная, — гаварыў ён сам сабе. Трэба пісаць „Уражаньні з Жэнэвы“. Але што я напішу, калі ў галаве нічога такога-сякога эўропэйскага няма. Туды ехаў — спаў. Назад ехаў — спаў. У Жэнэве — зяваў і драмаў. Дык аб чым-жа пісаць? Аб чым!.. аб чым!..

Натужыўся неяк Ярэма і напісаў некалькі слоў. Гэта — быў яго пачатак. Далей думка ўпёрлася і... ні з месца. Асалавелымі вачамі глядзеў Ярэма на напісанае. Мутна пав‘сла галава, і Ярэма седзячы заснуў. Прысьніўся яму сон, што Ярэма ў Жэнэве, што ён на трыбуне: галава яго працуе, як матор, язык лапоча, як кулямёт. Увесь сьвет слухае Ярэму... А Ярэма ўсё гавора, гавора і гавора, дый рукамі размахвае...

Махнуў Ярэма ў сьне рукамі, а чарніліца на стале перакулілася, разьлілося чарніла і... заліло ўсю Ярэмаву думку, якую ён, пасьля такой вялікай усяночнай „працы“, запісаў быў на паперы.

У той дзень была вялікая навальніца. Стрэліў пярун недзе пад вакном Ярэмавага дому. Прачхнуўся ён. Глянуў на стол, на паперы і.. самлеў са страху: усе яго думкі, дашчэнту, заліло праклятае чарніла.

Такім чынам, сьвет не даведаўся, што ў тую ноч напісаў Ярэма аб сваіх уражаньнях з Жэнэвы.

Янка Барысаўскі

## Дзьве конфіскаты „Маланкі“.

Рэдакцыя і Адміністрацыя часопісі „Маланка“, просіць за нашым пасярэдніцтвам падаць да ведама сваіх паважаных падпісчыкаў і чытачоў наступнае:

Выйшаўшыя ў апошнім часе №№ 9 і 10 „Маланкі“ па загаду п. Старосты Гродзкага ў Вільні сконфіскованы.

№ 9 за фэльетон Я. М. „Усемагутны паліцыянт“, верш Уладзіміцкага, за адзін жарт і дзьве карыкатуры.

№ 10 за верш Янкі Купалы „Песьня для некаторых маладых людзей“, карыкатуру „Дзьве дарогі“. Гэты верш Янкі Купалы надрукованы ў 1908 г. ў зборнічку яго вершаў „Жалейка“, ...прайшоў, навет, праз царскую цэнзуру.

Як у першым, так і ў другім выпадку конфіскатаў, паліцыя забрала ўсе клішэ, у тым ліку 15 клішэ неконфіскованых. Інтэрвэнцыя ў п. Старосты Гродзскага, у п. Пракурора і ў Акружным Судзе нічога не памагла. Такім чынам выдавецтва „Маланкі“ праз доўгі час не магло выпусьціць новых нумароў „Маланкі“ і тым пацешыць у свой час сваіх паважаных падпісчыкаў і чытачоў.

*У нашай аднаднёўцы падаецца бяз ніякіх зьменаў стары матар'ял, які шчасьліва ўцалеў ад конфіскатаў двох апошніх нумароў „Маланкі“.*

Спадзяёмся, што паважаныя нашы падпісчыкі і чытачы зразумеюць добра тыя труднасьці, у якіх нам прыходзіцца працаваць і ўсе, як адзін, адклікнуцца нам з помачай, пасылаючы залеглую падпісную плату і знаходзячы для нас новых падпісчыкаў.

*Рэдакцыя.*

## Хай пануе новы круль,
## Не шкадуе пятлі, куль!..

У дзень каранацыі караля Альбаніі — Ахмэта-Зогу па яго загаду было павешана 16 яго палітычных ворагаў.

*(З газэт).*



*Каралеўскі служака*: — Данашу вашай каралеўскай міласьці, што загад ваш выканаў старанна. І... калі Бог пазволіць вашай міласьці папанаваць яшчэ гадкоў з пару, дык ніводнага падданага ў вашай дзяржаве не застанецца...

### У БЮРО ПАСЯРЭДНІЦТВА ПРАЦЫ.

*Урадовец*:—Вы шукаеце для сваее фірмы скарбніка, але нашто вам? вы-ж колькі дзён таму назад аднаго адтрымалі ад нас?

*Прыбыўшыя*:—Дык вось мы яго і шукаем.

### У „ГОТЭЛІ“ на „КРЭСАХ“.

Служанка стукае ў дзьверы да начлежніка:

— Эй, вы там, сьпеце хутчэй!— падушка іншаму патрэбна.

### СВАЯЧКА, АЛЕ ДАЛЁКАЯ.

— Што гэта за паненка была, што я ўчора бачыў з вамі?

— А гэта—мая сваячка.

— Блізкая, ці далёкая?

— Дзе там блізкая, аж з-пад Ашмяны. *„З“.*

### ТАК САМА.

— Як ваша хвароба?

— А, бадай яе ліха! — вельмі ўпартая.

— А, як ваша жонка?

— Так сама, пане доктар.

*М.*

### ЗУСІМ ЗРАЗУМЕЛА.

Маленькі Стасюк пытаецца ў бацькі:

— Скажы, татка, чаму гэта пішуць, што работнікі на ўсім сьвеце бунтуюцца?

— Што-ж дзіўнага, што яны бунтуюцца. Належы на каня зашмат, — ён таксама наровіцца, ня цягне. *Т.*

### У БАГАТАГА КУПЦА.

— Пане, пане, ідзеце хутчэй на помач!—ваш Жоржык пяць грошай праглынуў.

— Ну, і хай сабе крычыць! Я ад гэтага не зьбяднею!

### А ЯК-ЖА.

— Ці вы ведаеце якую чужаземную мову?

— А як-жа! Я спадароў „Народ“ бяз ніякага тлумачэньня чытаю.

### СЛУЖБІСТЫ.

Кандуктар да пасажыра:

— Тут ня можна курыць.

— Але-ж я адзін.

— Гэта нічога, хоць-бы і нікога ня было, усё роўна ня можна курыць. *У. Г.*

# Ня варта было коняй марыць, дый сабак дразьніць...

(*Беларуская пагаворка*)

Віленскія польскія газэты пабілі сусьветны рэкорд у выдумках і лаянках на „Таварыства Беларускай Школы“, пасьля зачыненьня яго Галоўнай Управы ў Вільні.

Як вядома, улады ізноў адчынілі Гал. Управу і вярнулі забраныя рэчы і кніжкі.

(*З белоруск. радык. прэсы*)




**Паліцыянт**: — Ну і жыцьцё наша катаржнае: учора казалі зачыняць, сёньня — адчыняць! Але хто ведае, як надоўга? — З гэтымі *бялорусінамі* ні ўдзень, ні ўночы спакою ня маю...

---

## НАША ПОШТА.

**А. Ч.**: Нічога не падыйшло. Жарты старыя і ўсім вядомыя. А такі жарт, як „*падцёр*“, радзім Вам самому ўжываць пасьля абеду, замест таго, каб прысылаць у „Маланку“.

**Фігі-Мігі**: „Загадкі“ нічога, але адгадкі няпрыстойныя. „Маланка“ ня сьметнік, дзе ўсякую бульваршчыну можна друкаваць.

**М. Саладуха**: І Ваш „жарт“ няпрыстойны. І Вы таксама, як былі малым, добра пісалі пальцам па... стале...

**Я. Гарбуз**: Ваша апавяданьне „Турботы“ ў „Маланку“ не падходзіць і наагул больш ня *турбуйцеся*“.

**Мікола Ладан**: У сваім вершы Вы пішаце:

«Эх, каб я меў жонку, —
«Піў-бы самагонку»...

А ці жонка Вам гэта пазволіла-б? Чым марнаваць грошы на самагонку, лепш падпішэцеся на „Маланку“.

**Алесь Смут**: Прачыталі Вашы вершы і адразу пазналі, што Вы *Смут*, — нічога ў іх вясёлага няма; напрыклад:

«.. Я хачу з табой пабалакаць
«Пра нашы цяжкія грахі,
«Відаць, нам трэба ужо плакаць»..

Пашлеце лепш свае „вершы“ ў „Беларускую Зарніцу“, мо „айцы духоўныя“ ўсьцешацца.

**Каз. Бенеш**: Скажэце, а папера не чырванела, як Вы пісалі на ёй свой „верш“.

**Янка Няшчасны**: Каб Вас пацешыць, мы Вашы жарты зьмесьцім у наступным нумары.

---

Выдавец: Я. Маразовіч. Вільня, Гэтманская вул., № 4 Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.